Беларусам не патрэбен Майдан, беларусам патрэбны чэсныя, дэмакратычныя выбары!

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою.
Якуб КОЛАС

№ 61 (4519)

4 жніўня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Выказваем шчырую ўдзячнасць усім, хто павіншаваў "Народную Волю" з 25-гадовым юбілеем!

Калектыў рэдакцыі запэўнівае Вас, што і ў далейшым газета будзе служыць Беларусі, яе народу, адстойваючы прынцыпы дэмакратыі, правы чалавека, высокадухоўныя каштоўнасці.

Жадаем кожнаму з Вас, шаноўныя прыхільнікі "Народнай Волі", моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, плёну ў працы і радасці ад здзяйснення мар.

**Калектыў рэдакцыі газеты "Народная Воля".**



БЕЗ РЭТУШЫ

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

## Як прадухіліць Майдан

У беларускім грамадска-палітычным жыцці складваецца дзіўная сітуацыя. Многіх хвалюе адно пытанне: ці будзе Майдан? Гэта ж тэма бурна абмяркоўваецца ў сацыяльных сетках.

Адметна, што штабы альтэрнатыўных кандыдатаў пра Плошчу нічога выразна не кажуць. Толькі цьмяна намякаюць на неабходнасць абараняць свой выбар. Маўляў, калі ўлады пойдуць на фальсіфікацыю вынікаў галасавання, то народ мае права на пратэстныя выступленні.

Парадокс у тым, што адзіныя, хто ўвесь час заяўляе пра Майдан, – гэта прадстаўнікі ўлады. Аляксандр Лукашэнка гаворыць пра Майдан, "майданутых", пра вулічныя пратэсты амаль у кожным выступленні. Зразумела, ён прагаворвае тое, ад чаго страціў спакой, што яму баліць, што яго турбуе. Прычым, як мне здаецца, кіраўнік дзяржавы не ўпэўнены ў здольнасці структур МУС справіцца з абураным народам, таму намякае на то, што можа заклікаць на дапамогу войска. Актыўна пужаюць Майданам дзяржаўныя СМІ.

Такім чынам, прывід Майдана лунае ў паветры, і яго выклікае ў першую чаргу сама ўлада. І чым больш яна імкнецца пазбавіцца ад гэтай назойлівай ідэі, чым мацней імкнецца запужаць народ, тым больш маральна рыхтуе грамадства да непазбежнасці вулічнага пратэсту. Калі духаў выклікаюць, то яны абавязкова з'яўляюцца. Пра гэта вам скажа любы спірытолаг.

Аднак улады старанна абыходзяць пытанне, у чым прычына пагрозы Майдана, чаму людзі абураны і гатовы пратэставаць.

А якраз гэта пытанне і з'яўляецца галоўным. І адказ на яго відавочны. Бо ўлады, мяркуючы па тым, што адбываецца, не збіраюцца праводзіць свабодныя, сумленныя выбары, а, як звычайна, займаюцца іх імітацыяй. Пра гэта сведчыць шмат фактаў.

У выбарчыя камісіі не допушчаны прадстаўнікі альтэрнатыўных кандыдатаў.

Спачатку ўлады адмовіліся ад назіральнікаў АБСЕ, не даслаўшы своечасова запрашэнні. Рашэнне ЦВК аб абмежаванні колькасці назіральнікаў на выбарчых участках адсякае ўсіх незалежных назіральнікаў. Інакш кажучы, на гэтых выбарах сапраўднага назірання можна не чакаць. Бо назіранне ад праўладных арганізацый – гэта, уласна, не назіранне, а група падтрымкі выбарчых камісій. Ліквідуецца апошні механізм, з дапамогай якога грамадства магло б хоць нейкім чынам, вельмі ўскосна адсочваць працэс галасавання.

ЦВК адмовілася ад прапановы ўсталяваць відэакамеры на выбарчых участках.

Увогуле, улады выключылі з выбараў найбольш моцных альтэрнатыўных кандыдатаў: Віктара Бабарыку, Валерыя Цапкалу, Сяргея Ціханоўскага.

Забаронены незалежныя сацыялагічныя апытанні.

Людзей ужо пачынаюць заганяць на датэрміновае галасаванне.

Не вядома, ці будуць шторкі на выбарчых кабінах. Калі не, дык такім чынам не будзе захавана таямніца галасавання.

Ва ўладаў ёсць дастаткова просты спосаб прадухіліць Майдан: правесці свабодныя, дэмакратычныя, сумленныя выбары. Але, хутчэй за ўсё, яны на гэты крок не пойдуць.

У прынцыпе, імітацыя выбараў у Беларусі адбываецца больш 20 гадоў. Але дасюль сітуацыю мікшыравала тое, што існы рэжым меў значны давер з боку грамадства, Аляксандр Лукашэнка карыстаўся падтрымкай адноснай большасці насельніцтва.

А цяпер грамадства прачнулася і са здзіўленнем убачыла, што рэальных выбараў у краіне няма. А замест іх адбываецца ўзурпацыя ўлады. І, натуральна, гэта выклікае абурэнне людзей. Яны не могуць паверыць, што такое стаўленне ўлады да народа можа адбывацца сёння, у XXI стагоддзі, у цэнтры Еўропы. Цяпер у большасці краін Афрыкі праходзяць больш-менш свабодныя выбары. А беларусы ўжо чвэрць стагоддзя гэтага пазбаўлены.

Дарэчы, паводле дадзеных Інстытута сацыялогіі, давер да Цэнтральнай выбарчай камісіі ў сакавіку-красавіку ў Мінску складаў толькі 11%. Думаю, пасля ўсіх скандальных рашэнняў ЦВК апошняга часу давер да ведамства Лідзіі Ярмошынай сягае да нуля.

Галоўнае прынцыповае адрозненне беларускіх выбараў ад сапраўдных свабодных выбараў палягае ў ролі дзяржавы.

Аксіёма дэмакратычнай выбарчай кампаніі – нейтралітэт дзяржаўных інстытутаў, іх неўмяшанне ў барацьбу розных кандыдатаў і палітычных сіл. У Беларусі ж органы ўлады – галоўны суб'ект выбараў.

На забеспячэнне патрэбнага выніку працуе ўся дзяржаўная машына. Самае дзіўнае, што гэтую ролю дзяржавы ніхто не збіраецца хаваць. Тое, што ў дэмакратычных краінах лічыцца нонсэнсам, у Беларусі норма.

У выніку ўсе апаненты Аляксандра Лукашэнкі змагаюцца не з ім, а з усёй дзяржаўнай машынай. Не дзіва, што кіраўніца ЦВК Лідзія Ярмошына назвала агітацыю некаторых кандыдатаў часткай "антыдзяржаўнага плана". У межах згаданай парадыгмы яно так і ёсць: выступленне супраць Лукашэнкі ёсць выступленне супраць дзяржавы.

У гэтым і палягае трагедыя беларускага соцыуму. Адсюль і ўсе жахі, звязаныя з Майданам.

БЛІЦ

## Ці будзеце вы падчас падліку галасоў агучваць інфармацыю па кожным бюлетэні?

*Такое пытанне "Народная Воля" задала старшыням участковых камісій.*

**Яўген ЛАДЗЯТА, старшыня камісіі ўчастка для галасавання №42, ДУ "Цэнтралізаваная сістэма дзяржаўных публічных бібліятэк г.Мінска", бібліятэка-філіял №11:**

– Вызначымся, як будзем праводзіць падлік галасоў. Можа, нейкія рэкамендацыі паступяць. Ніякіх сакрэтаў не будзе, агучым агульную суму галасоў, будзем дзейнічаць максімальна празрыста.

**Святлана ЗАЙКОЎСКАЯ, старшыня камісіі ўчастка для галасавання №5, ДУСА "Бяльніцкі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў":**

– Я вельмі занята цяпер. І навошта наогул усе гэтыя пытанні? Я разумею, што вельмі адказны момант для краіны. Мы будзем рабіць усё ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**Міхаіл ДАРАШКОЎ, старшыня ўчастковай выбарчай камісі №7 Савецкага раёна г.Гомеля, дырэктар ДУА "Сярэдняя школа №28 імя Э.В.Сярогіна":**

– Я ўжо чвэрць стагоддзя ўзначальваю ўчастковыя камісіі – на прэзідэнцкіх, парламенцкіх, мясцовых выбарах. І скажу так: Выбарчы кодэкс не патрабуе дэманстрацыі кожнага бюлетэня і агучвання таго, якому кандыдату ў гэтым бюлетэні аддадзена перавага. І мы ў камісіі пры падліку галасоў 9 жніўня гэтага рабіць не будзем. Будзем толькі асобна падлічваць бюлетэні і агучваць вынікі са скрыняў датэрміновага і асноўнага галасавання.

**Святлана БУДКЕВІЧ, старшыня камісіі ўчастка для галасавання №22, ДУА "Дзіцячая харэаграфічная школа №1 г.Мінска":**

– Мы не будзем агучваць інфармацыю па кожным бюлетэні, і, як вядома, такой практыкі не было раней. Сябры камісіі і назіральнікі будуць прысутнічаць пры падліку галасоў. Ускрылі скрыню, падлічылі – агучылі. Затым – іншая скрыня. А па кожным бюлетэні ніхто і ніколі інфармацыю не даваў.

**Вольга МОЎЧУН, старшыня Гагарынскага ўчастка для галасавання №4, ДУА "Пачатковая школа №6 г.Вілейкі":**

– Як гэта – даваць інфармацыю па кожным бюлетэні? Пры падліку паказваць кожны ліст і інфармаваць, за каго прагаласавалі? Трэба будзе ўдакладніць…

**Сяргей ЛАВІТ, старшыня сталічнай камісіі ўчастка для галасавання №9, памяшканне станцыі "Калядзічы":**

– Не адказваю ні на якія пытанні па тэлефоне. Прыходзьце на ўчастак – пагутарым.

**Ганна ЛЕБЕДЗЕВА, старшыня камісіі сталічнага ўчастка №32, Цэнтр рэабілітацыі і сацыяльнай падтрымкі інвалідаў ГА "Беларускае таварыства інвалідаў":**

– Мы карыстаемся метадычнымі матэрыяламі Цэнтрвыбаркама, і ў адпаведнасці з гэтым будзе адбывацца падлік галасоў.

А ці будзем даваць інфармацыю па кожным бюлетэні? Калі вам гэта вельмі цікава, то самі і пачытайце метадычныя матэрыялы і там знойдзеце адказ. А я яго і так ведаю…

**Сяргей МІКЕНЯ, старшыня Ленінскага ўчастка для галасавання №2, ДЛГУ "Валожынскі лясгас":**

– Пакуль не было рэкамендацый ад Цэнтрвыбаркама наконт таго, каб даваць інфармацыю па кожным бюлетэні, таму падлік галасоў і агучванне вынікаў будзе традыцыйным метадам. Але не магу вам сказаць, што адбудзецца да 9 жніўня.

**Сяргей КАВАЛЬЧУК, старшыня камісіі ўчастка для галасавання №1, ДУ "Хакейны клуб "Нёман", г.Гродна:**

– Я па тэлефоне ніякай інфармацыі не даю. У нас усё будзе адбывацца згодна з выбарчым заканадаўствам.

**Апытвалі Анатоль ГАТОЎЧЫЦ, Міхал КАРНЕВІЧ, Марына КОКТЫШ.**

КАМЕНТАРЫЙ

Юрый ЧАВУСАЎ, юрыст:

## «Выбарчыя камісіі працуюць на замову...»

– Няма даверу да вынікаў, якія агучваюць выбарчыя камісіі.

Канкрэтны прыклад: назіральнік на 65-м выбарчым участку Заводскага раёна Мінска Валерый Рабцаў звярнуўся ў камісію з прапановай, якая не парушае Выбарчы кодэкс: сябры ўчастковай камісіі збіраюць бюлетэні ў агульны стос, затым адзін з сябраў камісіі сартуе бюлетэні, пададзеныя за кожнага з кандыдатаў, і агучвае кожны бюлетэнь. Гэта абсалютна адпавядае Выбарчаму кодэксу! Тым не менш старшыня ўчастковай камісіі адказвае, цытую: ***"Гласный пересчет каждого бюллетеня, находящегося в ящике для голосования, законодательством не предусмотрен"***.

Усе ведаюць, што ў нас ёсць датэрміновае галасаванне, у тым ліку прымусовае. І падлік галасоў – той момант, калі ўсе ранейшыя хібы можна выправіць такім чынам, каб атрымаць неабходныя лічбы. Парушэнні здараюцца, назіральнікі іх заўважаюць, але насамрэч сістэма мае шмат кампанентаў, на этапе якіх адбываюцца фальсіфікацыі.

Няма ніякага даверу камісіям, якія сфарміраваны без удзелу апазіцыі, прадстаўнікоў кандыдатаў у прэзідэнты, грамадскасці. Высветлілася, што некаторыя людзі наогул трапілі ў камісіі незаконна, бо грамадзяне за іх не падпісваліся.

Выбарчыя камісіі не карыстаюцца даверам, бо больш за 20 гадоў яны проста выконваюць палітычны загад. Іх задача правесці выбары так, як патрэбна выканаўчай уладзе, іх не цікавіць воля беларускага народа. На жаль, выбарчыя камісіі працуюць на замову.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

## Трактор оставили без хозяина

31 июля в Хойниках, через двое суток после пикета в поддержку Светланы Тихановской, был задержан тракторист Евгений Васильков.

Имя его мало кто слышал, а вот видели по крайней мере девяносто три тысячи белорусов. Васильков – тот самый «хойникский тракторист», который записал и вывесил в свободный доступ на видеоканале ютьюб в интернете свое обращение к белорусским учителям, руками которых в массе своей и осуществляются фальсификации результатов народного волеизъявления.

Традиционно, когда такие слова произносили или писали представители «высоколобой» интеллигенции, «городские», им тут же возражали многочисленные учителя. Причем вовсе не обязательно записные сторонники действующей власти. Помню, как спорили со мной после очередной из моих «колонок» на эту тему Анна Северинец и Евгений Ливянт, люди весьма и весьма уважаемые, в том числе и за свою независимую позицию.

А тут вот высказался тракторист. Он записал пятнадцатиминутный ролик «Про выбор» – обращение к учителям и работникам учреждений культуры. По его словам, система строится на воровстве. Доярка крадет молоко, электрик – лампочки, учителя и работники культуры – крадут будущее. Потому что именно они составляют значительную часть избирательных комиссий. Именно они осуществляют нечестный подсчет голосов, не дают наблюдателям достоверной информации, подчиняются начальству, требующему от них покорности.

Аргументы хойникского тракториста показались мне заслуживающими внимания. В частности, главный: если вам не нравится то, как вы живете, почему вы делаете все, чтобы продолжать жить именно так, а не иначе? Почему вы – вы, а не Лукашенко – боитесь перемен и раз в пять лет отказываетесь действовать по закону, а не по приказу? Не отвечайте за Лукашенко – отвечайте за себя.

Это был упрек, как говорится, по существу. Евгений Васильков обратил внимание, в какой – на самом деле – бедности в сравнении с чиновниками, силовиками, идеологами всех мастей живет сельский учитель. Говорил он о тех людях, которых знал; в частности, говорил Евгений, одна из таких учительниц преподавала еще ему самому, а теперь – его детям. И жизнь ее за эти годы ничуть не стала лучше.

Как, впрочем, не стала лучше и жизнь самого Василькова, как бы он ни работал.

А на видео был перед нами вполне крепкий мужчина, явно не злоупотребляющий спиртным, не бегающий от работы. Такому бы – при нормальной системе оплаты труда или при условии свободного выделения земли и кредитов под фермерство – процветать. А вот не процветает.

Уже после задержания Василькова – с традиционным ныне для избирательной кампании диагнозом «неподчинение сотрудникам правоохранительных органов» – в интернете появилось большое интервью с ним. С горечью говорил тракторист о деревне, в которой опустевшие дома сносят, освободившееся место распахивают, а дальше… Дальше – бурьян.

Задерживали Василькова, как можно предположить, скорее всего, из-за того самого ролика в интернете, которому уже больше месяца. Вероятно, именно для того, чтобы посадить на «сутки» – традиционные в наших условиях десять-пятнадцать суток. Мужик яркий, здоровый. А вдруг не только на пикет, но и на акцию протеста выйдет?

На пикет, после которого Василькова, как мне кажется, и решили изолировать на некоторое время от бурной интернет-деятельности, в Хойниках вышли 300 человек. А всего в районном центре живет 13.400 человек. Много это или мало? Достаточно, чтобы забеспокоилось начальство: вдруг 10 августа будет больше? Вот и убрали тракториста-блогера с глаз долой.

Трактор остался без хозяина. Хотя, возможно, найдут на время другого тракториста, чтобы меньше дружил с интернетом.

Но как раз Евгений Васильков и кажется мне главной фигурой, своеобразным символом происходящих в мозгах людей перемен. Никто ведь не заставлял его записывать обращение к учителям, не предлагал ему за это деньги, не выписывал гранты. И на пикет его не партийность повела – совесть, желание что-то наконец изменить.

Я не знаю, каким он выйдет после этих самых «суток». Скорее всего, освободят его в какой-то другой стране. Но вот в какой именно?

Какой будет Беларусь после 9 августа?

Нет у меня ответа. У Евгения Василькова свой ответ, наверное, был бы: он вообще, судя по всему, за словом в карман не полезет. Но вот связаться с ним я вовремя не сумел, так что, скорее всего, получим мы с ним ответ на этот вопрос одновременно.

И мне почему-то хочется, чтобы этот ответ трактористу из Хойников понравился.

ЗА ПРОХОДНОЙ

## Выйдут ли рабочие на площадь?

*Какие сегодня настроения на заводах и фабриках? Поддержит ли рабочий класс тех кандидатов в президенты, которые выступают за новую Беларусь? Могут ли 10 августа из-за всеобщей забастовки остановиться крупнейшие предприятия страны?*

*"Народная Воля" поинтересовалась мнением лидера Свободного профсоюза металлистов **Александра Бухвостова**.*

**– Александр Иванович, вы знаете, какие сегодня настроения на предприятиях? Выйдет ли народ на улицу?**

– По моим наблюдениям, сегодня на протесты выходят прежде всего те, кто думает о будущем и перспективах, они остро выражают свое несогласие с существующим режимом. А есть немало тех, кто думает не о далеких перспективах, а лишь о том, как сейчас выжить, эти люди менее активны.



На мой взгляд, среди кадровых рабочих не так остро стоит вопрос перемен. Некоторые работают по 10–15–25 лет на одном предприятии, и даже если они выходят на работу не каждый день, то получают две трети заработка, а на некоторых предприятиях зарплаты довольно высокие. У рабочих есть внутреннее чувство, что в случае глобальных перемен они могут потерять эту призрачную стабильность. Так рассуждают и многие из тех, кто работает и получает пенсию. В сумме у них выходит не так уж и плохо, во всяком случае прожить на эти деньги можно.

Если бы независимые профсоюзы могли работать на всех предприятиях, как ФПБ, то мы регулярно напоминали бы людям о том, что надо бороться за свободу волеизъявления рабочего. Люди закабалены контрактами, везде присутствует административный и идеологический контроль.

Без большой политической забастовки сложно победить этот режим: у власти еще есть ресурс, в том числе и силовой. И одно дело, когда люди приходят на санкционированные акции протеста с концертами и песнями, и совсем другое – несанкционированное мероприятие после выборов, когда придется лицом к лицу столкнуться с ОМОНом.

**– Но у нас всегда выходили на площадь после президентских выборов.**

– И в этот раз могут выйти. Тем более если будут массовые фальсификации результатов голосования. Хотелось бы надеяться на более-менее справедливые выборы, но в наших условиях это, конечно, звучит смешно. Хотя все, кто приходит на встречи с кандидатами в президенты, требуют лишь честных выборов. На это основной упор.

Старая оппозиция фактически не участвует в выборах, она ушла в тень, даже политические партии на второстепенных ролях. Должен быть яркий политический лидер, который сможет удержать страну.

**– Тихановская сможет?**

– Сегодня, как ни крути, выбор остается между Лукашенко и Тихановской…

**– Вы сами за кого?**

– За перемены.

В 1994 году я не верил, что Лукашенко выиграет выборы. Но оказалось, что все возможно! Может, и в этот раз народ свой выбор сделает. Хотя сегодня ситуация иная…

К огромному сожалению, у независимых профсоюзов сегодня нет общей оценки ситуации по каждому предприятию. Но по той информации, что до нас доходит, вряд ли будет массовая поддержка альтернативного кандидата со стороны рабочего класса. В регионах, конечно, проблемы стоят острее. Но, думаю, 10 августа предприятия будут работать.

Хотя, еще раз повторю, ситуация может измениться в любой момент. Вот сегодня Александр Лукашенко будет выступать в Палате представителей с посланием. И кто знает, вдруг он скажет: *"Устал, ухожу…"*?

**Марина КОКТЫШ.**

ПАЗІЦЫЯ



## Віктар ШУМЕЛЬ:

# «Я быў не першы, хто напісаў заяву аб выхадзе з прафсаюза»

*Дырэктар гродзенскага Цэнтральнага спартыўнага комплексу "Нёман" **Віктар Шумель** у адкрытым лісце да старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Міхаіла Орды прапанаваў адмовіцца ад падтрымкі федэрацыяй любога кандыдата ў прэзідэнты, захоўваючы нейтралітэт. Сам жа напісаў заяву аб выхадзе з прафсаюзаў. Некаторыя яго падначаленыя прынялі аналагічнае рашэнне. Міхаіл Орда публічна адказаў на ліст Шумеля.*

*Сёння спадар Віктар – субяседнік "Народнай Волі".*

**– Віктар, пасля такога прынцыповага ўчынку вы яшчэ працуеце на сваёй пасадзе?**

– Так, я па-ранейшаму на сваёй пасадзе. Праблем пакуль не было, ніхто з вышэйшага кіраўніцтва са мной не размаўляў па гэтым пытанні.

**– А што падштурхнула вас напісаць заяву аб выхадзе з прафсаюзнай арганізацыі, даслаць адкрыты ліст спадару Орду, прычым моцна пакрытыкаваўшы яго за тое, што ён заявіў, быццам усе-ўсе падтрымліваюць дзеючага прэзідэнта?**

– Я быў не першы, хто напісаў заяву аб выхадзе з прафсаюзнай арганізацыі. Людзей абурыла тое, што ад іх імя Міхаіл Орда гучна аб'явіў на ўсю краіну аб падтрымцы аднаго кандыдата, хоць такой думкі прытрымліваюцца далёка не ўсе. І я таксама не згодны з яго пазіцыяй.

**– Дарэчы, якую ролю ў вашай арганізацыі адыгрывае прафсаюз?**

– На добры лад, ён павінен бараніць правы працоўных. Але ў нас яго галоўная функцыя зведзена да размеркавання пуцёвак, падарункаў і абслугоўвання ўлады.

Прафсаюз не стаў на абарону людзей, калі ім пачалі навязваць драпежную кантрактную сістэму, калі іх пачалі лічыць дармаедамі. Затое, бачыце, Орда заклікае аднадушна падтрымаць кандыдата ў Прэзідэнты, які сёння прадстаўляе ўладу.

**– У вас, напэўна, немалы працоўны калектыў, работнікі ўзнімаюць пытанні аб павышэнні заработнай платы?**

– У нас працуе 150 чалавек. Заробкі невысокія, як і ў многіх бюджэтных арганізацыяй. Людзі разумеюць, што я як дырэктар не магу істотна паўплываць на іх павышэнне. Мая задача – каб была справядлівасць у размеркаванні нагрузкі і налічэнні зарплаты.

**– Выбарчая кампанія падыходзіць да завяршэння. Наколькі, на ваш погляд, яна адпавядае дэмакратычным нормам?**

– На жаль, яна несправядлівая ў адносінах да шэрагу прэтэндэнтаў на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Паглядзіце, як тэндэнцыйна падаюць яе ўсё афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі.

**– Самі пойдзеце на выбары?**

– Абавязкова.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПО СЛУЧАЮ

# Кошмарные сны Андрея Муковозчика

Печально известный политический колумнист газеты «Беларусь сегодня» Андрей Муковозчик в последнее время плохо спит – сам в этом признался в колонке под названием «Четвертый сон Нины Павловны». Кошмары человеку снятся от самого больного, по мнению автора, вопроса в мире – вмешательства в чужие выборы.

Политики друг друга обвиняют, ругаются, но вот, похоже, при этом крепко спят. А плохо спит Муковозчик. Что ж, такой он человек. Бывает.

И его можно понять: только уснешь, как три наяды приснятся, да еще в окружении 33 богатырей-«вагнеровцев». Только глаза откроешь – деньги находят за печкой. И думай, Муковозчик: транши эти из России или из Америки, и от кого конкретно? В общем, вмешательство в наши элегантные выборы налицо, а чье оно – не понятно.

Как уже всем известно, 33 боевика из частной военизированной компании Вагнера пойманы благодаря бдительности работниц профсоюзного санатория «Беларусачка». Здоровяки приехали в униформе, водку не пили, с женщинами, понимаешь, не знакомились, в карманах имели суданские фунты. Дураку понятно, что они диверсанты, а приехали не отдыхать, а помогать жене блогера-хулигана организовать беспорядки. Привезли с собой три баула, содержимое нашим следователям не показали, чем еще более усилили подозрение. Даже работницы санатория с глубоким сожалением поняли, что баулы не заполнены бутылками «Столичной» и презервативами. А что если они забиты под завязку дохлыми крысами? Прощай, водопровод в «Дроздах»?

Мало того, правоохранителям следовало бы проверить всех белорусов на предмет обнаружения предметов, которые могут говорить об их приготовлениях к беспорядкам. Почти у всех легко можно обнаружить кухонные ножи, а у некоторых – и ружья. Не верьте, если станут говорить, что ножами они режут исключительно колбаску и помидорки, а с ружьями ходят в лес на охоту. В нынешнее тревожное время наличие ножей и ружей нужно истолковывать только как приготовление к беспорядкам. Будут отрицать – используйте «детектор лжи» – зажмите то, что мешает плохому танцору, дверью и спросите вежливо и спокойно: «С какой целью приготовили ножи и ружья?» Поверье, немедленно последует ответ: «С целью дестабилизации обстановки». Можно также пригрозить отправкой интимных фото из кабинок для голосования одной даме из одного трехбуквенного ведомства (я не о КГБ). Ответ будет тем же.

Что касается найденных с третьей попытки у одного блогера за диваном 900 тысяч долларов, скажу так: жуткий непрофессионализм следователей. Они сигнал получили? Получили. Почему только с третьего захода обнаружили и почему такую малую сумму? Посмотрели только за диваном? Муковозчик правильно пишет, что нужно было посмотреть еще и за печкой. Там наверняка еще пара-тройка миллионов лежит. Смотрели ли в сарае? Уверен, там спрятан танк. Выгоняйте его на улицу, определяйте марку. Если новейшая «Армата» – ноту протеста Путину, если «Абрамс» – разрыв отношений с Трампом. А если и не танк, так джип, на котором легко прорываться через границу. В бане вполне могут прятаться оставшиеся «вагнеровцы». Наши следователи, способные в банке найти деньги, а в картинной галерее – картины, в бане могут найти не только купальщиц.

Теперь о трех наядах, что приплыли на лодке прямо в сон Муковозчика и повергли достопочтенного в нервную дрожь. Правда, Андрей еще не видел наяву кричевских наяд Скачкову и Ивкину, особенно когда они в подогретом настроении после двух литров «Боброва» и литра коньяка. Зрелище, вам доложу, достойное кисти художника и сна Муковозчика.

Так вот одна из этих наяд, тревожащих воображение политколумниста газеты «Беларусь сегодня», музыкант. По легенде. Любит играть Вагнера на флейте. А по сути – прекрасно знакома с предвыборными технологиями, пишет Андрей. Я вам по секрету больше скажу: осваивала она их в Невеле и Пскове с помощью друзей из прибывшей группы «туристов».

А вторая грация? А у нее сестра в банке, где деньги нашли и картины. Во как всё взаимосвязано! Копни поглубже сестричку – найдешь на кухне ножик и в холодильнике котлеты. Про ножи мы уже говорили, а котлеты... Догадались, чьего они приготовления! Ну, всё взаимосвязано.

А основная? Притворяется домохозяйкой, любящей женой и матерью. А почему бы Валерию Вакульчику не проверить вполне правдоподобную версию о том, что она прошла подготовку в Рязани, умеет жарить котлеты на лету – то есть во время прыжка с парашютом с Ил-76. Знает два иностранных языка – русский и английский. Знает хорошо, что должно давно насторожить наших чекистов. Лучше всего учат языкам в известных зданиях на Лубянской площади в Москве и на набережной Принца Альберта в Лондоне.

Кто придумал этих боевых наяд? – задается вопросом А.Муковозчик. ЦРУ или ФСБ? Пиарщик Шкляров?

У меня есть ответ и на этот вопрос. После 9 августа я вам открою этот секрет.

А пока спите спокойно, товарищ Муковозчик.

**Сергей НЕРОВНЫЙ.**

*г.Кричев.*

ЧЕЛОВЕК И ГОСУДАРСТВО

# Ганцевичская эпопея,

## или Как власть, используя милицию и суды, не позволяет журналистам исполнять свой профессиональный долг

В тот день, когда в разных городах Беларуси состоялись акции солидарности с задержанными в период сбора подписей за выдвижение претендентов на пост Президента страны, за решеткой оказались два ганцевичских журналиста – **Сергей Багров** и **Александр Позняк.** Нет, они не были участниками пикета или митинга, они просто работали, исполняя свои профессиональные обязанности. Вели прямой эфир с места события – с площади, которая считается главной в небольшом райцентре.

Казалось бы, кто имел право оказать противодействие местным журналистам? Так нет же, не просто прервали их работу в прямом эфире, но еще и избили. Мало того, судили по двум статьям: неповиновение милиции и участие в несанкционированном мероприятии. Сергею Багрову дали 15 суток ареста, Александра Позняка оштрафовали на 810 рублей.



Кто же такие те, кто грубо посягнул на законные права репортеров? Может, какие-то юные милиционерчики, не знающие своих полномочий и решившие показать удальство перед местными девочками? Нет, в брутальном задержании журналистов главную роль играли подполковник **Виталий Кулешов**, он же начальник райотдела внутренних дел, а также его заместитель майор **Максим Лукьянч**ик, который одновременно является главным идеологом местного милицейского аппарата. За их плечами не один год работы в правоохранительных органах, им не нужно рассказывать о свободе слова, правах журналистов, находящихся при исполнении профессиональных обязанностей. Впрочем, к ним я еще вернусь, а пока назову остальных фигурантов беззакония по отношению к безобидными репортерам «Ганцавіцкага часу».

Сергея Багрова судила **Оксана Копач**. Вердикт Александру Позняку выносила **Екатерина Груда**. Можно только догадываться, почему дело рассматривалось в Барановичах, а не в Ганцевичах, где действует районный суд. Возможно, боялись, что на защиту журналистов поднимется весь городок, который, как пчелиный улей, гудит до сих пор от того, что произошло на площади, где размещается вся районная власть.

Действительно, для провинциальных Ганцевичей это, пожалуй, первая протестная акция с таким жестоким подавлением. Среди задержанных оказался и 27-летний **Виталий Цыбулько**. На него навалились сразу несколько милиционеров, один из них притиснул голову мужчины коленом к земле так, что могло случиться то, что произошло в американском городе Миннеаполисе с темнокожим Джорджем Флойдом, которого таким же образом полицейский Дерек Шовен задушил. Замечу, кадры брутального задержания Виталия в тот же вечер облетели по интернету весь белый свет.

Но вернемся к истории с журналистами. Поскольку они вели прямой эфир, то успели зафиксировать на видео не одну картинку, характеризующую рьяность нашей доблестной милиции. Вот люди в погонах начинают хватать собравшихся на площади. Их грубо валят на землю. Слышна нецензурная брань. Журналистам бесцеремонно мешают исполнять профессиональные обязанности. Расправившись с малочисленными участниками пикета, группа милиционеров окружает репортеров. Та же нецензурная брань, в ответ на которую слышен журналистский голос: «Не трогайте камеру! Не ломайте руки! За что вы бьете меня?!» Звуки избиения. Затем мелькание камеры сопровождается чудовищным нелитературным монологом. Вместе с восемью другими лицами журналистов доставляют в местный изолятор, где они томятся до утра. В 8.30 с ними хотели встретиться адвокаты, но их даже не пустили в районный отдел милиции. Через переговорное устройство они услышали «Ждите», и лишь где-то через час сообщили, что Сергея Багрова и Александра Позняка уже отвезли в суд Ганцевичского района. Когда защитники прибыли туда, журналистов они не увидели, и никто ничего внятного сказать не мог. Лишь ближе к одиннадцати утра адвокатов официально уведомили, что журналистов будут судить в Барановичах. Пришлось срочно мчаться туда, а это километров под сто.

О том, как проходил суд, я расскажу позже, а сейчас давайте порассуждаем над тем, из-за чего все же заковали в наручники ни в чем не повинных журналистов. Так, как уже сказано выше, в периферийном райцентре проходила акция солидарности с задержанными в Гродно во время пикета по сбору подписей за выдвижение претендентов на пост Президента страны. Да, официального разрешения властей на ее проведение не было. Но при чем здесь репортеры? Не они же решили выйти на площадь и провести протестную акцию? Но, узнав о ней, по долгу своей работы появились на месте события. Казалось бы, у всех свои интересы и свои цели – у непосредственных участников акции, сотрудников милиции и тех же местных журналистов. По большому счету людей в погонах должно интересовать только то, как обеспечить безопасность репортеров при выполнении ими профессиональных обязанностей. Если они, пишущие и снимающие, не нарушают закон, то мешать им в работе нельзя. Если есть претензии к участникам акции – думайте, как в соответствии с законом действовать.

А что в данном случае получилось? Журналисты пострадали не меньше, а то и больше, чем те, кто вышел на площадь протестовать. Думаете, тот же начальник райотдела милиции подполковник Виталий Кулешов не знал, что репортеров нельзя трогать, поскольку они выполняют свой профессиональный долг и законы о СМИ и о массовых мероприятиях дают им право находиться там, где происходят события, и передавать оттуда информацию? Знал, конечно. Как знал и о том, что законодательство четко разграничивает: журналист и участник массового мероприятия – это два разных субъекта.

Аналогично и в правовых актах Организации Объединенных Наций утверждается, что *«журналисты не должны подвергаться наказаниям за то, что они законно выполняют свои функции»*.

Так все же почему подполковник Виталий Кулешов и майор Максим Лукьянчик вместе с группой подчиненных милиционеров набросились на репортеров «Ганцавіцкага часу»? Предположу: они выполняли приказ людей, облеченных властью, которые не желают, чтобы информация о протестных настроениях граждан широко тиражировалась и становилась известной не только в нашей стране, но и за ее пределами. А значит, им приказано (гласно или негласно) репрессировать не только инакомыслящих, но и журналистов, освещающих их акции.

Реалии сегодняшнего дня не позволяют привлечь к ответственности Кулешова и Лукьянчика, однако пусть они задумаются над тем, что рано или поздно, но наступят времена, когда та же Фемида спросит с них за все прегрешения, которые они допустили перед законом. А сейчас зададим им только один вопрос: господа офицеры, вас не мучает совесть за то, как вы поступили по отношению к безвинным журналистам? Ганцевичи – городок маленький, завтра вы встретитесь на улице с теми же Сергеем Багровым и Александром Позняком – как посмотрите им в глаза? Или быстренько перейдете на другую сторону улицы? А может, думаете, что вас скоро переведут на работу в другой район? Но и там может возникнуть подобная ситуация. Поэтому мой совет как правозащитника: служите только Его величеству Закону. Власти предержащие приходят и уходят, а Закон остается. И за его нарушение вам, не исключено, придется отвечать и через какое-то время.

А теперь впору обратить ваш взор, уважаемые читатели, на действия барановичских судей Оксаны Копач и Екатерины Груды. Вот ганцевичские милицейские начальники представили им материалы, касающиеся Сергея Багрова и Александра Позняка. Уже мантия Фемиды, которую они надевают перед тем, как зайти в зал судебного заседания, обязывает их руководствоваться законом и только законом. Как же О.Копач и Е.Груда следовали этому святому правилу?

Ознакомившись с представлениями ганцевичской милиции, они, я считаю, имели все основания отклонить рассмотрение как одного, так и второго дела. Находились журналисты при исполнении служебных обязанностей? Да, находились. Являлись ли они участниками протестной акции? Не являлись. Были ли замечены в ее организации? Не были. Чинили какие-либо препятствия действиям милиции? Не чинили. У людей в погонах была своя работа, у репортеров – своя. Имели ли право сотрудники милиции прерывать эфир, который вели журналисты? Не имели. Так за что и кого судить? Но судьи Оксана Копач и Екатерина Груда, похоже, руководствовались такой логикой: раз репортеры были на площади, где собралась группа людей, значит, участвовали в массовом мероприятии, а поскольку оно не было разрешено властями, получайте наказание.

Скажу прямо: логика абсурдная по своей сути. Не имеющая никакого отношения ни к белорусскому закону, ни к международному праву. По такой логике надо сажать на сутки и сотрудников милиции, которые тоже находятся на несанкционированном массовом мероприятии и выносят приказ разогнать и задержать людей. Но у нас на сутки сажают или штрафуют только журналистов, которые выполняют свою работу, строго следуя постулату: общество имеет право на получение информации.

Суд – это, образно говоря, соревнование двух сторон. В данном случае ганцевичской милиции и журналистов. Каждая сторона имела право представить свидетелей по делу в свою поддержку. Чтобы выступить свидетелями со стороны защиты, из Ганцевичей в Барановичи приехало много людей. По ходатайству адвокатов суд их выслушал. К материалам дела были приобщены видеосъемки. Судьи их посмотрели, но, что удивляет, не приняли во внимание кадры, подтверждающие невиновность журналистов. Оксана Копач и Екатерина Груда поверили только милиционерам. Хотя, по сути, те вообще не могут быть свидетелями: они – непосредственные фигуранты дела.

Заметьте: так, не соблюдая процессуальных норм, судят тех, кто каким-либо образом проходит по линии массовых протестных акций, не только в Барановичах. Это практика фактически всех судов в стране. Что, все судьи безграмотны, не знают азов права? Знают, но, давайте прямо скажем, власть превратила их в винтики машины, уничтожающей любые демократически ростки. На глазах у сотен людей проходило задержание Сергея Тихановского в Гродно. Все видели, как «добивала» его провокаторка и как он вежливо ей отвечал. За что бросать человека за решетку? За что судить? Не за что! Но есть заказ власти – и судьи строго его исполняют. Такова печальная действительность сегодняшней белорусской системы.

Очевидно то, что журналисты, освещающие акции протеста, стали представлять для государственной машины большую опасность. Но в чем они виноваты? Ни в чем. Во всем виноват страх власти, что все в стране и многие за ее пределами узнают реальный размах недовольства белорусского общества, которое выливается в уличные протесты. Выполняя политический заказ, государевы слуги, видимо, считают, что чем брутальнее наказывать тех, кто доносит до людей правду, тем скорее удастся погасить в стране протестную волну. Напрасные усилия, этим самым они, милиционеры, судьи, только доводят ситуацию до кипения, забывая, что за все нарушения закона им самим придется отвечать.

**Олег АГЕЕВ, юрист, заместитель председателя Белорусской ассоциации журналистов.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
4 ЖНІЎНЯ 2020 г.

АДКРЫТЫ ЛІСТ

# «Не патрабуем нічога, акрамя выканання Канстытуцыі!»

## *Зварот выпускнікоў Ліцэя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта*

Грамадзяне і грамадзянкі Беларусі! Сябры! Калегі! Аднакласнікі і аднакласніцы!

9 жніўня шосты раз у гісторыі незалежнай Беларусі пройдуць прэзідэнцкія выбары, і ўжо цяпер відавочна, што менавіта яны вызначаюць будучыню нашай краіны. Мы з вамі – грамадзяне Беларусі, а значыць, наша меркаванне істотнае.

Нам, выпускнікам і выпускніцам Ліцэя БДУ, што падпісаліся ніжэй, як і ўсім грамадзянам краіны, неабыякавы яе лёс. Ліцэй БДУ, можна сказаць, раўналетак незалежнай Беларусі. Як арганізацыя сістэмы адукацыі, Ліцэй прытрымліваецца прынцыпу нейтралітэту ў пытаннях палітыкі, рэлігіі і нацыянальнасцяў, закладаючы агульначалавечыя маральныя каштоўнасці і выхоўваючы ліцэістаў у духу свабодамыснасці, братэрства і ўзаемапавагі.

Менавіта таму мы, выпускнікі і выпускніцы Ліцэя ўсіх пакаленняў, палічылі непрымальным моўчкі назіраць за падзеямі, якія закранаюць канстытуцыйныя правы і будучыню кожнага з нас. Мы выступаем з адкрытым зваротам да ўсіх нашых суграмадзян і суграмадзянак, улучна з тымі, хто займае розныя пасады ў сістэме дзяржаўнай улады.

Адміністрацыя Ліцэя БДУ не мае ніякага дачынення да нашай ініцыятывы. А выпускнікам і выпускніцам іншых школ, гімназій і ліцэяў Беларусі, якія падзяляюць наш пункт гледжання і хочуць выказацца, прапаноўваем пераняць наш прыклад.

Мы любім Беларусь і паважаем людзей, якія ў ёй жывуць.

Мы жывём у гэтай краіне ці непарыўна з ёй звязаны і хочам, каб у ёй жылі нашы дзеці, упэўнена гледзячы ў будучыню. Мы хочам, каб нашы дзеці ганарыліся будучыняй Беларусі, у якой ім наканавана жыць.

«Адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ», – так напісана ў нашай Канстытуцыі (арт.3).

А таксама: «Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права свабодна выбіраць і быць абранымі ў дзяржаўныя органы на аснове агульнага, роўнага, прамога ці ўскоснага выбарчага права пры тайным галасаванні» (арт.38).

Ніхто не мае права перашкодзіць правядзенню сумленных выбараў. Так паводле заканадаўства, і мы не патрабуем нічога, акрамя выканання Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

На справе ж мы бачым, што выбарчая кампанія пераўтварылася ў жорсткую і непрымальную барацьбу з іншадумствам. Наймацнейшыя альтэрнатыўныя прэтэндэнты на пасаду прэзідэнта былі зняты з дыстанцыі на старце. Незалежныя кандыдаты і кандыдаткі не прайшлі ва ўчастковыя выбарчыя камісіі. На ўчасткі абмежаваны і доступ назіральнікаў і назіральніц. Тых, хто выходзіць на мірныя акцыі пратэсту альбо проста апынуўся побач з імі, хапаюць на вуліцах, кідаюць у аўтазакі і садзяць на суткі.

Аднак! Падзеі апошніх месяцаў канчаткова пераканалі нас у тым, што ад нас, ад грамадзянскай супольнасці, у гэтым жыцці залежыць значна больш, чым мы прызвычаіліся думаць. Паасобку мы проста людзі, а разам – народ Беларусі.

Народ, які вызначае, як будзе развівацца наша краіна. Народ, які кантралюе дзеянні нанятых ім службоўцаў, а не наадварот. Бо менавіта за кошт бюджэту, сфарміраванага нашымі і вашымі адлічэннямі ў выглядзе падаткаў, пошлін і іншых збораў, утрымліваюцца дзяржорганы, у тым ліку дзяржапарат, органы ўнутраных спраў, дзяржбяспекі, пракуратуры, судовай улады, забяспечваецца правядзенне выбараў і рэферэндумаў.

Мы лічым, што кожны з нас можа і павінен зрабіць усё, што ад яго залежыць, для таго каб фінал выбараў прайшоў сумленна, правы выбаршчыкаў і ўсіх прэтэндэнтаў і прэтэндэнтак на пасаду прэзідэнта не парушаліся, а падлік галасоў вёўся справядліва і празрыста ў камісіях усіх узроўняў.

Таму што гэта нашы галасы, і гэта МЫ выбіраем прэзідэнта.

Заяўляць пра парушэнні падчас выбарчай кампаніі – не толькі наша права, але і абавязак. Калі мы самі станем сведкамі такіх парушэнняў, мы будзем звяртацца ў ЦВК, да праваабаронцаў, назіральнікаў, у СМІ. Мы не будзем баяцца дзейнічаць публічна і называць свае імёны. Таму што не робім нічога ганебнага ці супрацьзаконнага. Таму што ананімныя звароты не ўлічваюцца. Мы заклікаем вас рабіць гэтаксама.

Мы звяртаемся да чальцоў выбарчых камісій. Нічога не бойцеся. Не ідзіце на ўгоду з сумленнем. Можна падмануць іншага чалавека. Нават многа іншых людзей. Але як падмануць самога сябе? Грамадства змянілася і пільна сочыць за вашымі дзеяннямі. Гэта выбарчая кампанія даказвае: сумленнасць кожнага з вас мае прынцыповае значэнне для краіны.

Сярод вас багата настаўнікаў, медработнікаў, дзяржслужбоўцаў, работнікаў і кіраўнікоў прадпрыемстваў. Пры падліку галасоў вы стаіце на варце інтарэсаў усіх выбаршчыкаў Беларусі.

Ад кожнага з вас залежыць, ці паверыць гэтым разам народ вынікам галасавання. Абыходкавая формула «не важна, як прагаласавалі, важна, як падлічылі» абсалютна супрацьзаконная. Удзел у фальсіфікацыях з'яўляецца крымінальным злачынствам (артыкулы 191–192 КК РБ).

Але больш істотна тое, што фальсіфікацыі пазбаўляюць усіх нас права голасу, пазбаўляюць беларусаў і беларусак права вызначаць сваю будучыню.

Згадайце пра гэта, калі будзеце стаяць перад выбарам.

Мы звяртаемся да супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Ваша галоўная задача – «абарона жыцця, здароўя, гонару, годнасці, правоў, свабод і законных інтарэсаў грамадзян Рэспублікі Беларусь» (так гаворыцца ў Законе «Аб органах унутраных спраў Рэспублікі Беларусь»). Усіх грамадзян, а не аднаго грамадзяніна ці групы грамадзян з іх асабістым пунктам гледжання на працэсы, якія адбываюцца ў краіне.

Згадайце пра гэта, калі будзеце стаяць перад выбарам. Згадайце кожнага з нас, сваіх суседзяў і сваіх сяброў, – гэта яны (а не вядзёныя міфічнымі замежнымі лялькаводамі асобы) мірна выходзяць на вуліцы па ўсёй Беларусі, каб разам выказаць сваё меркаванне. Будзьце перадусім людзьмі ў форме, якім мы давяралі б і якімі хацелі б ганарыцца. Лавіце і затрымлівайце сапраўдных злачынцаў і правакатараў, станавіцеся на абарону сваіх мірных суграмадзян, нават калі вы не згодны з іх пунктам гледжання.

Мы звяртаемся да прадстаўнікоў судовай улады. «Уступаючы на пасаду суддзі, урачыста клянуся перад народам Рэспублікі Беларусь сумленна выконваць свае абавязкі, здзяйсняць правасуддзе, падпарадкоўваючыся толькі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, быць непрадузятым і справядлівым, як наказвае мне доўг суддзі», – памятаеце? Гэта словы вашай прысягі.

Згадайце іх, калі будзеце стаяць перад выбарам. У тым ліку, калі будзеце выносіць чарговае рашэнне паводле арт.23.4 альбо арт.23.34 КаАП.

Выбар ёсць заўсёды.

А ў нас павінны быць выбары.

Бо паасобку мы проста людзі, а разам – народ Беларусі.

**З павагаю і надзеяй –**

**выпускнікі і выпускніцы Ліцэя БДУ, усяго 1823 подпісы (кожны дзень іх колькасць павялічваецца).**

ДУХОЎНАЯ СПАДЧЫНА

## Янка КУПАЛА



### Перад будучыняй

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўскрэснем мы, душою ўпаўшы, звяўшы,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...

Сягоння мы жывём, і ўдзень мы блудзім
Пад маскай, асляпляючаю нас,
І што сказаць самім сабе і людзям,
Не ведаем, не можам, хоць і час.

Заціснуты, задушаны, як мышы
Пад жорсткім венікам з усіх бакоў,
Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы
Таго свайго, што наша ад вякоў.

Пакрыўленыя колісь нашы душы
Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ;
Снуёмся, ў думках зводных затануўшы,
А хтось, а штось і мучыць і пячэ.

Цябе чакаем, будучыні нейкай,
Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш,
І гінем марна пад чужой апекай,
Адбіўшыся ад родных вехаў, меж…

А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі
Засеў за наш бяседны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.

Нявольніцтва й жабрацтва так нас з'ела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела
Не смеем, стоптаныя на пясок.

Там чутна: Беларусь! Там – Незалежнасць!
А там – «Паўстань, пракляццем»... Ну, а мы?
Мы ў страху... дым, крутня... разбежнасць...
Без толку крыллем хлопаем, як цьмы.

О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!..
І слухаем і нюхаем тут, там:
Які павеяў вецер на загоны, –
Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?

Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпынку выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.

З кійком жабрачым так мы, паўналеткі,
Брыдзём, паўзём у свет – скрозь неўпапад.
І прысягаем, клічам Бога ў сведкі,
Што мы – не мы, што нехта вінават...

І так жывём, сябе саміх не знаўшы,
Учора, сёння лазім між канаў...
Няўжо ж бы хто й над будучыняй нашай
Навек залом пракляты заламаў?

Няўжо нас не аб'ясніць розум ясны
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны –
Кліч бураломны: вызваленне з пут?!

*1922*

ПАЗІЦЫЯ

# Фальсіфікацыя – гэта злачынства!

## *Жанчыны «Грамады» звярнуліся да выбарчых камісій*

Рабочая група «Жанчыны Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада)» звярнулася да членаў выбарчых камісій.

*«9 жніўня народ Беларусі зробіць выбар. І вы, члены выбаркамаў, таксама зробіце свой выбар. Будзе гэта выбар людзей ці воля аднаго чалавека – залежыць толькі ад вас»*, – гаворыцца ў звароце.

Увага акцэнтуецца на тым, што традыцыйна няпростую і адказную працу ў камісіях выконваюць найперш жанчыны: *«Часта вы трапляеце ў камісіі без вашай згоды, бо «так трэба». Праца там не прыносіць ужо ні радасці, ні задавальнення. Шмат гадоў дыктатура маніпулявала вашым залежным становішчам і шантажавала кантрактамі. Вас вучылі маўчаць, пагаджацца і трываць. Аднак у цяперашняй сітуацыі ваша бяздзеянне рызыкуе выліцца ў трагедыю для нашай з вамі краіны»*.

Аўтары звароту прапануюць усім членам выбарчых камісій паставіцца да падліку галасоў выбаршчыкаў сумленна і не дапусціць фальсіфікацый вынікаў волевыяўлення народа.

**Інна МАРОЗАВА.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Кастусь ЦВІРКА:

# «Што гэта за літаратары, калі яны сядзяць, як мышы пад венікам?»

*Адзін са старэйшых беларускіх паэтаў выказаў свой погляд на тое, што сёння адбываецца ў Беларусі.*

– Я, безумоўна, сачу за тым, як у Беларусі праходзіць чарговая прэзідэнцкая кампанія, – *кажа Кастусь Аляксеевіч*. – І мне падаецца, што яшчэ не ўсе людзі ўсталі, многія беларусы спяць і не ведаюць, што трэба галасаваць за Святлану Ціханоўскую.

А ўвогуле мне імпанаваў Віктар Бабарыка, за яго многія аддалі б свае галасы. Хоць зараз Зянон Пазьняк са свайго вугла крытыкуе гэтага чалавека, але, думаю, Бабарыка быў бы паратункам для Беларусі. Я бачу, што гэта дзелавы і высокаадукаваны чалавек. І хоць ён узначальваў аддзяленне расійскага банка, але ж ўсё роўна – беларус.

Пры актыўным удзеле Віктара Бабарыкі выдадзены пяцітомнік на беларускай мове нобелеўскага лаўрэата Святланы Алексіевіч, таму я бачу ў ім чалавека, які зрабіў бы Беларусь сапраўды беларускай.

**– Бабарыка – за кратамі, празрыстых выбараў ізноў не будзе…**

– Калі людзям не даюць, то няхай яны самі бяруць. І самае галоўнае, што трэба папярэдзіць тых, хто будзе лічыць галасы: за фальсіфікацыі рана ці позна, але давядзецца адказваць як за злачынства.

Столькі плявалі на закон і на людзей, але зараз я бачу, што народ прачынаецца. І тыя, хто прачнуўся, павінны штурхаць іншых.

Калі чую, што той жа Бабарыка, Цапкала ці Ціханоўскі ідуць у прэзідэнты, каб Беларусь страціла свой суверэнітэт, то разумею, што ўсё гэта – падман і хлусня! Якраз сённяшняя ўлада даўно прывязала сябе ланцугом да Масквы і доўгі час добра жыла, атрымліваючы танныя нафтапрадукты і крэдыты. А зараз грошы не даюць – і пачаўся лямант: "Незалежнасць пад пагрозай!"

Я свой выбар зрабіў, на выбары абавязкова пайду.



Таму і з вёскі спецыяльна ў Мінск прыехаў.

**– Вам імпанаваў Віктар Бабарыка, галасаваць будзеце за Святлану Ціханоўскую. А што думаеце пра астатніх кандыдатаў?**

– Мякка будзе сказана, гэта не вельмі шчырыя людзі. Усім відавочна, што рэльную колькасць неабходных для перамогі галасоў можа набраць толькі Святлана Ціханоўская, і мяне дзівяць астатнія кандыдаты ў прэзідэнты – Андрэй Дзмітрыеў, Ганна Канапацкая і Сяргея Чэрачэнь. Няўжо яны не разумеюць, што іх з ахвотай зарэгістравалі як пешак у гульні ўлад? У іх жа практычна нулявы шанц на гэтых выбарах.

Таму, калі гэтыя людзі сапраўдныя патрыёты Беларусі, а не вартыя ганьбы себялюбцы, то падчас сустрэч з выбаршчыкамі яны павінны скіроўваць галасы за Святлану Ціханоўскую, бо яе перамога – адзіны шанц вызваліць краіну з ганебнага палону.

**– Кастусь Аляксеевіч, а чаму ў такі складаны для краіны момант у асноўным маўчаць нашы літаратары, публічна не выказваюць сваю пазіцыю?**

– Яны павінны абавязкова выступаць, але і насамрэч пераважным чынам маўчаць. Што гэта за літаратары, калі яны сядзяць, як мышы пад венікам? Заўсёды ж паэты і пісьменнікі былі наперадзе ў падобных сітуацыях. Успомнім паўстанне 1863 года пад кіраўніцтвам нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага, у якім брала ўдзел Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі і іншыя пісьменнікі.

А сёння ў нас пад тысячу літаратараў, але большасць з іх маўчыць у такі адказны для Беларусі момант. І гэта таксама наша ганьба!

**– Можа, ужо не вераць, што ў краіне нешта магчыма змяніць?**

– Верыш альбо не верыш, але трэба змагацца, а не сядзець па кутках у хатах.

**Алесь СІВЫ.**

СКАЗАНО!

## Светлана ТИХАНОВСКАЯ, кандидат в Президенты Республики Беларусь:

# «Мы должны создать партнерство на равных, а не зависимость от газовой или кредитной «иглы»



– Я считаю, что Беларуси не нужно Союзное государство. Беларусь должна быть независимым самостоятельным государством. Нам нужны обычные межгосударственные связи, никаких дополнительных договоров не надо. Тогда не возникает и лишних соблазнов кого-то куда-то присоединять. Мы и так дружим, у нас множество связей – дружеских, родственных. Конечно, отношения должны быть хорошими, надо продолжать развивать экономические связи. Но все это должно быть на равных, в интересах обеих стран.

Независимость – наша абсолютная ценность, мы ее не продаем, мы ею не торгуем, мы даже не обсуждаем этот вопрос. Мы мирные люди и будем дружить со всеми, но только в интересах собственной страны. Мы должны создать партнерство на равных, а не зависимость от газовой или кредитной «иглы».

Понятно, что Россия – наш сосед, а это означает, что нам нужны хорошие отношения. Поэтому мы очень заинтересованы в том, чтобы Россия была демократическим цивилизованным государством.

***

**– Какой, на ваш взгляд, должна быть политика по поводу русского языка в новой Беларуси? Нужно ли бороться с тем, что произошла русификация страны на уровне государства?**

– Это очень тонкий, я бы сказала, больной вопрос. Поэтому я оставила бы его решение новому парламенту, избранному на честных и справедливых выборах. Этот парламент должен будет учесть все обстоятельства. Но лично я – за возрождение и развитие белорусского языка и культуры. Мы не можем потерять язык наших предков, язык нашего народа. Сама я свободно говорю на русском, белорусском и английском.

(Из интервью сайту «Meduza».)

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА



Народная Воля
http://www.nv-online.info
4 ЖНІЎНЯ 2020 г.

## КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСА



### Не святая вада, а расол

Чаму мужыкі абмінаюць касцёл,
Чаму не наведваюць сёння царкву?
Бо ім не святая вада, а расол
Цяпер памагае лячыць галаву.

### Самы хуткі вагон

Многа паездзіў на ўласным вяку…
Гэта зусім не падман,
Што найхутчэй у любым цягніку
Едзе вагон-рэстаран.

### Не прэзерватыў, дык соска

…А над аптэкай надпіс быў
Для хлопцаў з горада і з вёскі:
"Не купіш тут прэзерватыў,
Дык заўтра прыйдзеш к нам
по соскі…"

### Пра рэўнасць

Калі падстаў для рэўнасці няма,
Дык раўнаваць, канешне, несур'ёзна.
Калі падстаў такіх, як кажуць, цьма,
Дык раўнаваць не трэба ўжо,
бо позна…

### Быццам тыгр

Не п'е, багаты, слоў няма пустых,
У ложку і пяшчотны, і гарачы…
Такі мужчына – бы ўсурыйскі тыгр:
Нібыта ёсць ён, ды ніхто не бачыў…

### Перашкодзіла жонка

Жыць парашыў я інакш зусім –
І гарманічна, і звонка!
Ды летуценным памкненням маім
Зноў перашкодзіла жонка…

### Адзінокім багаты не будзе

Чым больш ты паспяховы і багаты
(Хоць арганізм дае парою збой),
Тым маладзей жанчыны і дзяўчаты,
Што хочуць старасць
раздзяліць з табой…

### Ода гарэлцы

Дружба, вяселле і ноч пры кастры,
Зносіны на пасядзелцы…
Колькі харошага ўсё-ткі, сябры,
Можам сказаць аб гарэлцы!

### Радасць дырэктара

Аж свеціцца дырэктар піўзавода,
На ўсё глядзіць ён позіркам арла.
Для гэтага
Ёсць важкая нагода:
Стыпендыя ў студэнтаў падрасла…

### Усё адно шкада

Муж гаворыць жонцы:
– Жах дый годзе!
Толькі што прымроілася ў сне:
У гараж залез якісьці злодзей
І машыну выкраў у мяне.
– Зараз ты падобны на дэбіла!
Плешчаш абы-што, як гламазда:
У цябе ж няма аўтамабіля.
– Хай і так… Ды ўсё адно шкада…

### Хто дазволіў?

Ад пацыента – удзячнасці знак:
Для эскулапа вымае з пакета
Торцік, ікру і харошы каньяк.
Як эскулап пазірае на гэта?
Медык аж з твару змяніўся як бач
(Гэта прадбачыць было немагчыма).
– Хто вам дазволіў, –
Усклікнуў урач, –
Распараджацца маімі грашыма?!

БОЛЬ

# Циничная память власти

Бывшие узники нацистских концлагерей, проживающие в Беларуси, встречали 75-летие Победы над нацистской Германией с особой надеждой. Надеялись, что к юбилейной дате они будут признаны в своем отечестве жертвами национал-социализма. Дело в том, что они до сих пор остаются *«некоторой категорией граждан, пострадавшей от последствия войн»*, как записано в Законе «О ветеранах».

Еще в 2000 году немецкое государство приняло публичный закон «Об учреждении Фонда «Память, ответственность и будущее», в преамбуле которого записано: *«Германский Бундестаг признает свою политическую и моральную ответственность перед жертвами национал-социализма. Он хочет, чтобы об этой несправедливости помнили и будущие поколения»*. Узники фашистских концлагерей, тюрем, гетто и лица, угнанные в рабство и для других целей, невинно убиенные признаны жертвами национал-социализма. А у нас в Беларуси бывших узников концлагерей отнесли лишь к лицам, *«пострадавшим от последствия воин»*.

Согласитесь, это оскорбление тех, чье детство было опалено войной, тех, кто вместо родительской ласки испытал все ужасы оскала фашизма. А поэтому в 2012 году инициативная группа в составе 263 человек разработала проект закона «О жертвах нацистских преследований» и направила его Президенту А.Лукашенко, чтобы он передал его в парламент на утверждение. К сожалению, проект был похоронен в чиновничьих кабинетах. Возможно, Александр Григорьевич и был ознакомлен с нашими наработками, но ответ мы получили от тогдашнего начальника главного управления по работе с гражданами и юридическими лицами господина С.И.Буко. Вот что он написал:

*«Проанализировав законодательство о статусе и социальной защите бывших узников, считаем, что оснований для подготовки и внесения в Палату представителей Закона «О жертвах нацистских преследований» не имеется.*

*Поскольку бывшие узники в боевых действиях участия не принимали, данным законом они обоснованно отнесены к категории граждан, пострадавших от последствий войн (глава 3, статья 24 Закона «О ветеранах»), и для них закреплен необходимый уровень социальной защиты, исходя из возможностей государства»*.

Проекту закона «О жертвах нацистских преследований» приказано было умереть. Но многие жертвы национал-социализма, слава Богу, пока живут и напоминают государственным чиновникам, что нельзя извращать историю борьбы и страданий белорусского народа в период оккупации Беларуси нацистской Германией. Вероятно, сегодняшние высокопоставленные чиновники, родившиеся после войны и мало знающие о ней, не могут даже предположить, что бывшие узники нацистских концлагерей имеют непосредственное отношение к участникам боевых действий. И вот почему.

С начала Великой Отечественной войны белорусский народ проявлял не только неповиновение германским властям на оккупированной территории, но и оказывал самое активное сопротивление оккупантам. В «Директиве ЦК КП(б)Б №2 партийным, советским и комсомольским организациям по развертыванию партизанской войны в тылу врага» от 1 июля 1941 года указывалось:

*«Уничтожать врагов, не давать им покоя ни днем, ни ночью. Убивать их всюду, где застанешь, убивать чем попало: топором, косой, ломом, вилами, ножом.*

*Широко привлечь детей и женщин в качестве разведчиков и связистов»*.

Таким образом, активными участниками Великой Отечественной войны стали дети разных возрастов. И они, находясь в тылу врага, подверглись нацистским преследованиям, стали жертвами национал-социализма – узниками нацистских концлагерей.

***Поскольку наш проект закона был проигнорирован в кабинетах Администрации Президента, мы решили обратиться к*** депутатам Палаты представителей седьмого созыва с просьбой по своим округам использовать свое право законодательной инициативы и внести изменения в Закон «О ветеранах», признав узников *«ветеранами нацистских преследований со статусом – жертвы национал-социализма»*. Такие обращения были направлены депутатам Светлане Горваль, Алексею Егорову, Игорю Волкову, Александру Авутке, Игорю Тавтыну, Ирине Супранович, Игорю Марзалюку, Марине Шкроб, Тенгизу Думбадзе, Светлане Любецкой, Марине Василевич. Но обидно, что никто из них не посчитал необходимым использовать свое право законодательной инициативы в защиту узников. А председатель постоянной комиссии по законодательству и судебно-правовым вопросам Светлана Любецкая сообщила: *«Обращаю внимание, что планом подготовки законопроектов на 2020 год, утвержденным Указом Президента Республики Беларусь от 26 декабря 2019 года №482, подготовка законопроекта о внесении изменений в Закон «О ветеранах» не предусмотрена»*. Оказывается, без ведома Президента депутаты не могут осуществлять свои права, записанные в Конституции Республики Беларусь, не могут осуществлять наказы своих избирателей. Вот так парламент!

С высоких трибун можно сколько угодно говорить о долге перед теми, кто испытал все страдания войны, но если все заканчивается словами, то это не что иное как цинизм и беспамятство. Не поэтому ли в Беларуси нет национальной памятной даты, посвященной жертвам национал-социализма, жертвам Освенцима, Майданека, Тростенца, Хатыни, Озаричей, Минского гетто?.. Нет памятной даты в отношении детей, умерших в страшных мучениях в концлагерях, в огне Хатыни, от изуверских опытов в Освенциме и других местах за колючей проволокой.

От имени членов Белорусского союза общественных объединений бывших узников фашистских концлагерей «Эхо войны» 18 января 2019 года было направлено обращение на имя Президента Республики Беларусь А.Лукашенко, в котором излагалась просьба внести в пункт 2.3 указа Президента Республики Беларусь от 26 марта 1998 года №157 «О государственных праздниках, праздничных днях и памятных днях в Республике Беларусь» дополнение: установить «День мученика нацизма» и отмечать его 19 марта. Опять же ответ пришел не от А.Г.Лукашенко, а от первого заместителя начальника главного управления по работе с обращениями граждан и юридических лиц К.Поболя. Цитирую: *«В соответствии с подпунктом 1.1 пункта 1 Указа Президента Республики Беларусь от 15 октября 2007 г. №498 «О дополнительных мерах по работе с обращениями граждан и юридических лиц» обращения граждан независимо от того, в какой государственный орган или иную организацию они поступили, подлежат рассмотрению по существу в соответствии с компетенцией. В этой связи Ваше обращение направлено для рассмотрения в Аппарат Совета Министров Республики Беларусь»*.

Таким образом, обращение к Президенту оказалось в Министерстве труда и соцзащиты.

Мы вынуждены были 6 марта 2019 года повторно обратиться к главе государства. Но что вы, уважаемые читатели, думаете? Опять получили формальный ответ от заместителя главы Администрации Президента Республики Беларусь В.Г.Жевняка. Он сообщил: *«Ваше обращение с просьбой установить 19 марта Памятный день – «День мученика нацизма» рассмотрено в Администрации Президента Республики Беларусь совместно с Советом Министров Республики Беларусь, Минобороны, Минюстом, Минтруда и соцзащиты, Белорусском общественным объединением ветеранов.*

*В Республике Беларусь особое отношение к Великой Отечественной войне. От рук фашистских оккупантов наша страна потеряла около трети населения, беда зашла в каждый дом. Сотни сожженных деревень с их жителями, беззаветный подвиг бойцов Красной Армии, партизан, подпольщиков, и мирного населения навсегда останутся в памяти белорусского народа. Мы трепетно относимся ко всем ветеранам войны, невзирая на национальности и вероисповедания, помним и тех, кто погиб, защищая нашу Родину. Мы чтим тех, кто выжил в нечеловеческих условиях, и тех, кто был замучен в фашистских концлагерях.*

*Правовой статус бывших узников фашизма установлен Законом Республики Беларусь от 17 апреля 1992 года «О ветеранах» и сам по себе нисколько не умаляет героизм мучеников фашизма»*.

Как видим, не доросли ни морально, ни политически до понимания того, какую память нынешнее поколение белорусов оставит будущим поколениям о жертвах национал-социализма.

Правовой статус бывших узников фашизма *«некоторая категория граждан, пострадавшая от последствий войн»* извращает историческую память об узниках национал-социализма. Хотелось бы верить, что сегодняшняя моя публикация попадет на глаза Президенту Республики Беларусь А.Лукашенко и он узнает, как бесчеловечно обращается его команда с народом, с памятью о тех, кто погиб в страшных муках от нацистов. Беларусь – единственное государство в Европе, которое отрицает преступления национал-социализма на своей территории. Законодатель так и не принял Закон об ответственности за отрицание, преуменьшение, оправдание или одобрение преступлений национал-социализма. Жертвы нацистских палачей – узники концлагерей в Освенциме, Майданеке, Тростенце, Озаричах, Минского гетто и других таких мест – тихо и незаметно уходят в мир иной, унося с собой пережитые страдания, о которых никогда не узнают будущие поколения.

**Аркадий ШКУРАН,
бывший узник концлагеря «Озаричи», ответственный секретарь Белорусского союза общественных объединений бывших узников фашизма «Эхо войны».**

РАКУРС

## Частный столичный бизнес заплатил за полгода 4,7 миллиарда рублей налогов, а госсектор – 1,5 миллиарда

Эти цифры обнародованы Министерством по налогам и сборам. Как и многие другие. Так, сегодня в Минске зарегистрированы 136,5 тысячи частных кампаний и индивидуальных предпринимателей и почти 2,6 тысячи госпредприятий и организаций.

За первую половину 2020 года бюджет Минска пополнился 6,3 миллиарда рублей, из них, как видите, 4,7 миллиарда внесли в столичную казну представители частного бизнеса. Таким образом, можно сделать однозначный вывод: государство должно не душить предпринимателей, а всячески способствовать развитию их бизнеса. Нужно смелее идти на приватизацию убыточных и низкорентабельных госпредприятий.

Высокопоставленные чиновники пугают людей тем, что при передаче производств в частные руки многие рабочие попадут под сокращение. Чтобы они не оказались, образно говоря, на улице, нужно заранее подумать об их трудоустройстве в других местах или о помощи им в создании своих фирм. По этому пути пошли когда-то в соседней Польше, и посмотрите, каких огромных позитивных результатов они достигли. А наша ныне действующая власть лишь демагогией занимается и заботится, я считаю, прежде всего о своем благополучии.

**Константин ЗАВАДСКИЙ,
строитель.**

РЭЗАНАНС

## Духоўным айцам трэба было б звярнуцца да ўсіх членаў выбарчых камісій

Са зваротам да паствы звярнуліся галоўныя духоўнікі Беларусі – патрыярх Павел і арцыбіскуп Кандрусевіч. Нагода – узбуджэнне народа ў сувязі з прэзідэнцкімі выбарамі. Яны прызвалі грамадзян да выказвання сваёй волі ў спакойнай, мірнай абстаноўцы.

Калі я чытаў тэкст звароту шаноўных духоўных айцоў, міжволі падумаў: а чаму б ім не звярнуцца непасрэдна да ўсіх членаў выбарчых камісій? Ад іх жа ў многім залежыць грамадская атмасфера падчас галасавання і падвядзення вынікаў волевыяўлення народа. Не будзе фальсіфікацый, незаконнага ўкіду бюлетэняў у ўрны, закрытага падліку галасоў – людзі не выйдуць на вуліцы, спакойна ўспрымуць інфармацыю пра таго, хто сапраўды заслужыў давер народа стаць Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на чарговыя пяць гадоў. Вось чаму добра было б, каб і праваслаўны духоўнік, і каталіцкі заклікалі ўсіх арганізатараў выбарчай кампаніі праявіць сумленнасць і захаваць законнасць на завяршальнай яе стадыі.

**Алег РЫЖКОЎСКІ, грамадзянін праваслаўнага веравызнання.**

РЭХА

## Не вешайце людзям локшыну на вушы, спадар Кулажанка!

Прачытаў інфармацыю пра сустрэчу ў Гомелі рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту Юрыя Кулажанкі ў школе №72 з настаўнікамі. Праводзячы паралель паміж сённяшнім часам і 1990-мі гадамі, ён нагадаў: тады заробак быў 20 долараў.

Так, многія больш не атрымлівалі, калі параўноўваць валюту ЗША з тагачаснымі беларускімі "зайчыкамі". Але ж калі казаць пра тыя 20 долараў зарплаты, то нельга абысціся без адпаведных тлумачэнняў. Чаму спадар Кулажанка ні словам не абмовіўся пра цэны на спажывецкія тавары, прадукты харчавання, пра тарыфы на паслугі, пра кошт нерухомасці таго перыяду? Дык вось у той час у Мінску забудоўваўся мікраён "Вяснянка". Мой сын уступіў у кааператыў і заплаціў за двухпакаёвую кватэру ў пераводзе на валюту крыху больш за 8 тысяч долараў. Цяпер такая кватэра ў новым доме з такой планіроўкай каштуе пад 90 тысяч долараў.

Значыць, тое, што ў 1990-я гады каштавала 20 долараў, цяпер каштуе 180–190 "зялёных". Гэта раз. А па-другое, калі тыя даўнейшыя 20 баксаў сёння памножыць на дзевяць, а затым канвертаваць у беларускія рублі (курс 1:2,5), то атрымліваецца прыкладна 475. Што, у нас мала людзей, месячны заробак якіх цяпер складае менавіта 475–500 рублёў? Так што, спадар Кулажанка, недалёка мы адплылі ад 1990-х гадоў. І не трэба вешаць людзям локшыну на вушы. Вы лепш адказалі б на пытанне, чаму Беларусь намнога адстала ў развіцці ад той жа суседняй Польшчы. Ды і заробкі літоўцаў не параўнаеш з нашымі.

**Максім КАРОБЧАНКА.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Хутчэй інвалід памрэ, чым дзяржава адгукнецца на яго праблему

Летась у кастрычніку "Народная Воля" надрукавала мой матэрыял аб праблемах стварэння безбар'ернага асяродку для інвалідаў-вазочнікаў. Тэкст меў назву "Адышла ў безбар'ерны свет". Пісаўся ён, калі Мінск грымеў ад салютаў, гарадскіх юбілеяў, марафонаў, чэмпіянату свету, пампезных міжнародных форумаў, адкрыцця новых спартыўных аб'ектаў... У тыя дні я развітваўся са сваёй жонкай, інвалідам 1-й групы, вазочнікам, якая апошнія шэсць гадоў свайго жыцця амаль не ўставала з ложка і атрымала інваліднасць толькі за паўтара года да смерці.

Агаломшаны бляскам наваколля, я скрушна расказваў аб паўтарагадовым ліставанні з адміністрацыяй Цэнтральнага раёна г.Мінска, якая, адмовіўшыся па тэхнічных прычынах ад усталявання пандуса (занадта крутая лесвіца), у васьмі электронных і папяровых адказах аптымістычна абяцала ўсталяваць у пад'ездзе нашага 9-павярховага дома электрычны пад'ёмнік. Быў я і на асабістым прыёме ў кіраўніка адміністрацыі Дз.Пятрушы, атрымліваў запэўніванні ад ягонага першага намесніка В.Пярэдні, ад другога намесніка Д.Жыбуля, ад начальніка ЖКГ А.Собаля ды іншых клеркаў, якія звязваліся з Цэнтрам сацыяльнага забеспячэння раёна, прызначалі тэндары на распрацоўку тэхдакументацыі, шукалі падрадчыкаў на закупку будаўнічых модуляў, запчастак, узгаднялі ўсё з зацікаўленымі арганізацыямі, заключалі дамовы з мантажнікамі і энерганаглядам…

Былі праблемы з тэрапеўтычнай падтрымкай у паліклініках, стацыянарах, выклікам дактароў-спецыялістаў на дом. Толькі на чацвёрты дзень пасля смерці жонкі з'явіліся, як па камандзе, тры вузкія спецыялісты, якіх ва ўчастковай паліклініцы не было. Мусіць, каб паставіць галачку і адзначыць у журнале, што заяўка, якая была зроблена задоўга да гэтага, выканана.

Як толькі жонка памерла, я накіраваў электронны ліст у адміністрацыю Цэнтральнага раёна і папрасіў прыпыніць усе захады для ўсталявання абяцанага пад'ёмніка, бо праблема "вырашылася". Адміністрацыя прыслала мне афіцыйнае спачуванне на беларускай мове (!).

Я не ўзгадваў бы яшчэ раз гэтую маркотную гісторыю, калі б не адна акалічнасць. Праз сем месяцаў пасля майго паведамлення ў адміністрацыю пра смерць жонкі, калі работнікі ЖКГ Цэнтральнага раёна пачалі падрыхтоўчыя працы для ўстаноўкі новых ліфтаў, мне патэлефанавалі з адміністрацыі (не з ЖКГ!) і папрасілі звязаць іх з хворай асабіста. Уяўляеце мой стан?! Я пачаў высвятляць, што ж гэта такое робіцца, ці нехта нешта сапраўды рабіў, ці нам проста хлусілі паўтара года, што пад'ёмнік вось-вось усталююць. Пачалася новая перапіска. Я атрымаў аж тры пісьмовыя прабачэнні за подпісам розных службовых асоб. Вось вытрымка з ліста ад 10 студзеня 2020 года (жонка памерла 14 чэрвеня 2019-га) за подпісам намесніка кіраўніка адміністрацыі Д.Жыбуля (цытую даслоўна з захаваннем лексічных, сінтаксічных і марфалагічных асаблівасцяў) : "*Дадаткова паведамляем, што замена ліфтаў і прылада безбар'ернага асяроддзя з'яўляюцца двума рознымі праграмамі, адказнымі за рэалізацыю якіх з'яўляюцца розныя выканаўцы, і выканаўца ў частцы устаноўкі ліфта быў несвоечасова дасведчаны аб сітуацыі, якая склалася, што з'яўляецца выключна чалавечым фактарам… Прыносім прабачэнні за недастатковае разуменне з боку структурных падраздзяленняў адміністрацыі Цэнтральнага раёна г.Мінска…*"

А вось яшчэ адзін пасаж з гэтага ж ліста: "*Варта адзначыць, **што працэдура таргоў па выбару падраднай арганізацыі два разы не адбылася па прычыне адсутнасці ўдзельнікаў**…*" Ну што тут скажаш?

На заключэнне яшчэ адна цытата з перапіскі гэтага года. Параіўшыся з некаторымі спецыялістамі, я прапаноўваў стварыць на базе пратэзных майстэрняў для інвалідаў на прадпрыемстве, што месціцца ў Мінску па вуліцы Адоеўскага, 10 і мае філіялы ў абласных цэнтрах, спецыяльныя аддзелы для вытворчасці модуляў пад'ёмнікаў і пандусаў у адпаведнасці з асаблівасцямі тыпавых жыллёвых забудоў апошніх гадоў. 27 лютага гэтага года атрымаў я спакойны, дзелавы адказ першага намесніка кіраўніка адміністрацыі В.Пярэдні (цытую даслоўна): "*…Ва ўмовах практыкі, якая склалася ў 2019 годзе, большасць працэдур, праведзеных дзяржаўным прадпрыемствам "ЖКГ Цэнтральнага раёна г.Мінска" на распрацоўку праектна-каштарыснай дакументацыі па прыладзе безбар'ернага асяроддзя, **не адбыліся па прычыне адсутнасці ўдзельнікаў**. Па працэдурах, якія ўсё ж такі адбыліся, праектна-каштарысная дакументацыя не распрацавана па прычыне незахавання дамоўных адносін з боку праектнай арганізацыі. Дагаворы скасаваныя… Ацэньваючы сітуацыю ў цэлым, на думку адміністрацыі Цэнтральнага раёна г.Мінска, з'яўляецца дастаткова аргументаванай наступная пазіцыя: закупаць калыскі-трансформеры* (тут, мусіць, павінна быць напісана "каляскі". – **П.С.**)*, прадастаўляць у карыстанне асобам, якія маюць на гэта патрэбу, і потым забіраць па меры заканчэння тэрміну патрэбнасці… **Дадзеная прапанова ўнесена, аднак пытанне да гэтага часу застаецца адкрытым, і вызначыць тэрміны, вынікі яе разгляду і крыніцу фінансавання на рэалізацыю названай прапановы на сённяшні дзень не ўяўляецца магчымым**…*" Дзякуй сп.Пярэдню за шчыры адказ. Чакайце, спадары інваліды, пакуль праблема не "вырашыцца" натуральным чынам. Няма чалавека – няма праблемы.

Калі пачалася пандэмія і афіцыйныя СМІ вуснамі кіраўніка дзяржавы заклікалі грамадзян не паддавацца псіхозу, праўда, нагадваючы пенсіянерам, што яны належаць да групы рызыкі, я канчаткова зразумеў, што дзяржаве на нас, ужо старых, непатрэбных, напляваць – чым хутчэй вымрам, тым лепш. Будзе эканомія на пенсіях. Грошы ж патрэбны на спартыўныя палацы ды шоу для дэсантнікаў. Для насельніцтва – дэманстрацыя трыумфу волі і сілы, як у Лені Рыфеншталь у фільме пра Германію 30-х гадоў мінулага стагоддзя… Я разумею беларусаў, што пакуль з недаўменнем і праблескам гневу ў вачах мірнымі ланцугамі пасталі на вуліцах гарадоў і мястэчак. Улады ліхаманкава шукаюць чарговы "белы легіён", чакаючы ананімнага званка фрау А. з замежжа, што на нашых абшарах з'явіліся баевікі, каб стварыць беларускі майдан.

У дзяржаўных СМІ паказваюць, як у сваіх перадвыбарных агітацыйных паездках дзейны прэзідэнт, пераразаючы стужачкі на акурат дзеля гэтай кампаніі прымеркаваных здачах у эксплуатацыю прамысловых аб'ектаў, мастоў, басейнаў, паліклінік, дае мэтанакіравана "фокусным групам" (тэрмін з сацыялогіі) абяцанні. Настаўнікам – падвышэнне зарплаты ў паўтара разу, нянечкам у дзіцячых садках і бальніцах – у два разы, работнікам прыватных прадпрыемстваў – абарону ад хіжага ўласніка, аграрыям – гарадскія сацыяльныя стандарты і г.д. Толькі вось я не заўважыў, каб нешта абяцалі інвалідам і нямоглым пенсіянерам. Ліпеньскія 30 рублёў дабаўкі да пенсіі з'еліся за адзін паход ў краму. Магчыма, я нешта прапусціў. Думаю сабе: што мы – адпрацаваны матэрыял… Калі і не прыйдзем на выбарчы ўчастак, нічога не здарыцца. Укінуць за нас бюлетэні. Са мной такое было ў 2006 годзе, калі я галасаваў у 19.57.

**Пётр САДОЎСКІ,
дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, пасол у Германіі ў 1992–1994 гадах.**

СТОП-КАДР



*Так сустракалі ў гродзенскім Каложскім парку кандыдата ў Прэзідэнты Святлану Ціханоўскую.* (NN).

